*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*

*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2021, № 2(61). Люты

## Як у 1937 годзе ў Слоніме знайшлі вадаправод Агінскага

У жніўні 1937 года на Уланскай вуліцы ў Слоніме (цяпер гэта ўчастак Савецкай вуліцы ад Першамайскай да моста праз канал) пракладвалі ўчастак гарадскога вадаправода. Рабочыя ў траншэі натрапілі на тоўстыя калоды дрэва. Іх сярэдні дыяметр складаў каля 40 сантыметраў. Пасля таго, як дрэва выкапалі і выцягнулі, высветлілася, што гэта вадаправодная труба — унутры была высвідравана адтуліна дыяметрам каля 15 см.

Відаць, у 1937-м, як і ў папярэдні год, працы па пракладцы вадаправода былі маштабныя, бо ў рабочых была магчымасць прасачыць, што вадаправод ішоў з-пад

„KURJER WILEŃSKI" 27. 8. 1937.

**SŁONIMSKA**

**— Urządzenia wodociągowe z XVIII w.** W czasie prac wodociągowych na ul. Ułańskiej, prowadzonych przez zarząd miejski w Słonimie, natrafiono na grube kloce o przeciętnej średnicy około 40 cm. Po wydobyciu drzewa i przecięciu go okazało się, że jest to przewód wodociągowy, gdyż kloce zawierały wyżłobiony precyzyjnie otwór o średnicy około 15 cm. Po dokładniejszym zbadaniu ustalono, że wodociąg ten przechodzi z pod hal targowych w Słonimie i biegnie ul. Ułańską skręcając następnie w kierunku ul. Operowej.

Wodociąg pochodzi prawdopodobnie z drugiej połowy XVIII wieku i zbudowany został przez księcia Ogińskiego, który miał w Słonimie swój pałac i pierwszą operę w Polsce.

Kawałek wydobytego kloca został złożony w miejscowym muzeum P. T. K.

*Працяг на ст. 2*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

## Выпускнікі Слонімскага вышэйшага пачатковага вучылішча




Напачатку XX стагоддзя ў нашым горадзе працавала Слонімскае вышэйшае пачатковае вучылішча. Пра гэта сведчыць рэдкі фотаздымак яго выпускнікоў 1915 года, які мы публікуем у гэтым нумары "СК".

*Працяг на ст. 4*

# Як у 1937 годзе ў Слоніме знайшлі вадаправод Агінскага

*Працяг, пачатак на ст.1.*

гандлёвых радоў (цяпер гэта сквер на Першамайскай вуліцы) па Уланскай вуліцы, паварочваючы далей ў накірунку Опернай вуліцы. Адразу ж слонімцы прыйшлі да высновы, што гэта частка вадаправода, пабудаванага старастам Міхалам Казімірам Агінскім ў другой палове XVIII ст. Знаходку перадалі ў слонімскі музей.[1]




*Скрыжаванне Уланскай і Опернай вуліц каля былога палаца Агінскага. Фрагмент плана Слоніма 1934 года*

## Вада з крыніц з Панасоўскіх гор

Фрагмент драўлянага вадаправода другой паловы XVIII ст. і сёння можна пабачыць у Слонімскім раённым краязнаўчым музеі імя Стаброўскага. Дарэчы, для вырабу такога вадаправода патрэбны былі спецыялісты. Напрыклад, у XVII ст. у Гродна іх планавалі выклікаць з Вільні.[2] Яны свідравалі адтуліну ў дрэве, асобныя калоды злучалі металічнымі буксамі, счаплялі скобамі, замазвалі льном, канаплянымі вяроўкамі і смалой.[3]

*“Дакументальна пацверджана, што па драўляных калодах-трубах вада падавалася з Панасоўскіх гор,* — кажа ў сюжэце на мясцовым тэлебачанні краязнаўца і журналіст Васіль Афанасік. — *Яшчэ нядаўна такія трубы знаходзілі пры раскопках”*.[4] У тым жа сюжэце згадваецца, што калі ў 1895 годзе вырашалася пытанне аб будаўніцтве ў Слоніме гарадскога вадаправода, ад аднаго са старажылаў улады ведалі, што на Панасоўскіх гарах была *“сажалка пры млыне”* (былі яшчэ заўважныя і іх сляды), і адтуль вада падавалася ў горад самацёкам па драўляных трубах. Атрымліваецца, што ўжо ў той час не было ніякіх дакументаў пра першы слонімскі вадаправод. Не дзіўна, што афіцыйнай датай яго заснавання лічыцца 1895-ы — у гэтым выпадку ўсе адпаведныя дакументы захаваліся.[5]

## Вадаправод на Замосці

У пазнейшай публікацыі Васіль Афанасік пісаў, што “дубовыя трубы-калоды” былі знойдзены *“пры раскопках на вуліцы Пушкіна, а яшчэ раней — на вуліцы Маякоўскага”*.[6] У нарысе гісторыі слонімскага вадаправода сцвярджаецца, што *“у Слоніме, у Зарэччы, каля касцёла Св. Андрэя, у 1775 г. быў пракладзены вадаправод з драўляных калод”*. А *“крыху пазней М. К. Агінскі для падвода вады ў тэатр для пастаноўкі тэатральных відовішчаў*[, для] *фантанаў таксама выкарыстаў вадаправод”*.[7] З гэтага тэксту вынікае, што першы вадаправод у горадзе з’явіўся на Зарэччы (так раней называлася Замосце) ў год пабудовы касцёла св. Андрэя. Але ці ёсць доказы? На наш погляд, Агінскі калі будаваў вадаправод, то адначасова — і на левабярэжжы, і на правабярэжжы Шчары. Факт існавання самацечнага вадаправода на Замосці даказаны — у 2013 годзе каля злучэння вуліцы Горкага і плошчы Сапегі адкапалі яго фрагмент — драўляную калоду, як мяркуецца, XVIII стагоддзя.[8]

## Свінцовыя трубы

Слонімскі гараднічы ў рапарце гродзенскаму губернатару ад 11 студзеня 1838-га, згадваючы пра колішні вадаправод Агінскага, пісаў пра *“свінцовыя вадаправодныя трубы”*. І ён відавочна ведаў пра іх не толькі з расповедаў старажылаў, бо за некалькі гадоў да гэтага некаторыя слонімцы *“сакрэтна па кавалках”* выкопвалі іх у сваіх агародах. Вада па трубах паступала ў *“канавы, напоўненыя вадой”*, каля палаца Агінскага.[9]

Што гэта, камбінаваны вадаправод, які складаўся з драўляных і свінцовых трубаў?

Ці спроба абнавіць драўляны вадаправод, пракладаючы свінцовыя трубы? Пакуль адказу на гэтае пытанне няма.

### Вада для тэатра

У шэрагу публікацый пра дзейнасць Міхала Казіміра Агінскага ў Слоніме сцвярджаецца, што вадаправод будаваўся для патрэбаў тэатра, які знаходзіўся каля канала Агінскага. На наш погляд, гэта не так. На Замосці ж не было тэатру, але быў вадаправод — мясцовых жыхароў забяспечвалі пітной вадой. Вось і на левабярэжжы з яго дапамогай часткова вырашалася праблема вады. Іншая справа, хто да яе меў доступ. Верагодна, вадаправод забяспечваў патрэбы палацу Агінскага, шматлікіх жыхароў усіх яго будынкаў, гасцей.

Ужо згадваліся "канавы" каля палаца, у якія паступала вада. На жаль, як функцыянавала сістэма, дакладна невядома. Валянціна Караткевіч і Анатоль Кулагін пішуць, што *"частка сцэны* [тэатра] *затаплялася вадой з канала і па ёй плавалі лодкі"*.[10] Васіль Супрун жа адзначае, што значная частка сцэны *"затаплялася вадой з суседняга вышэй паднятага става, перад гледачамі маглі плаваць лодкі"*.[11] Рацыю мае Супрун, бо ёсць сведчанне з пачатку XIX стагоддзя пра *"сістэму трубаў"*, з дапамогай якіх частка сцэны *"запаўнялася вадой з сажалкі"*.[12]

Такім чынам, з вадаправода Агінскага вада трапляла і ў сажалку, а ўжо адтуль — у тэатр.

### Пытанні на будучае

Даследчык дзейнасці Міхала Казіміра Агінскага Анджэй Цеханавецкі падкрэслівае, што ён *"пераняў даўно абжыты маёнтак, які ўнёс ужо пэўны ўклад у культуру, а не зусім пустое месца"*.[13] Агінскі *"толькі вельмі нязначна пашырыў і перабудаваў рэзідэнцыю"* ў Слоніме.[14]



*Фрагмент драўлянага вадаправода / slonimvodokanal.by*

Васіль Супрун піша, што М. Агінскі *"завяршыў будаўнічыя работы па аднаўленню і рэканструкцыі колішняга палаца Льва Сапегі пад так званую "Оперу"*.[15] Па гэтай версіі, ён не ўзводзіў будынак тэатра, проста абнавіў стары палац, у якім праходзілі сеймікі ВКЛ.

А што калі і вадаправод Міхал Казімір Агінскі проста абнавіў? Яго ж маглі першапачаткова пабудаваць і Сапегі. Дагэтуль дакладна невядома, як змяніў рэчышча Шчары староста Леў Сапега, пра земляныя працы якога каля замка згадваў кароль і вялікі князь Жыгімонт III.[16] А яшчэ ў 2015-м у СМІ была згадка пра планы археолагаў разам з дайверамі *"даследаваць… драўляны вадаправод у Слоніме, частка якога знаходзіцца пад вадой"*.[17] І дзе яна знаходзіцца? Гэта ўсё пытанні на будучае. Паступова іх становіцца ўсё менш.

●Сяргей Ёрш


*[1] Kurjer Wileński wraz z Kurjerem Wileńsko-Nowogródzkim, 1937, № 235, 27 жніўня.*

*[2] Ковальчук Е. Первый гродненский водопровод был деревянным и начинался возле синагоги // 2016, 11 лютага;https://greenbelarus.info/articles/11-02-2016/pervyy-grodnenskiy-vodoprovod-byl-derevyannym-i-nachinalsya-vozle-sinagogi*

*[3] http://www.vodokanal.grodno.by/upl/booklet_history.pdf*

*[4] Афанасик В. Водопровод Слонима // 2011, 13 верасня; https://www.youtube.com/watch?v=Z6Ov8ljCrTE*

*[5] Як гэта было… // http://www.slonimvodokanal.by/index.php/be/mainmenu-69/inmenu-69*

*[6] Афанасик В. Слонимские криницы // Слонімскі веснік, 2012, № 1-2, 4 студзеня.*

*[7] Як гэта было…*

*[8] Прокофьевы Е., И. "Хождение в люди" по улице Горького // Слонімскі веснік, 2018, № 44, 14 красавіка.*

*[9] Памяць: гіст.-дакум. хроніка Слонімскага раёна. — Мінск, 2004. С. 108.*

*[10] Караткевіч В., Кулагін А. Помнікі Слоніма. — Мінск, 1983. С. 16.*

*[11] Супрун В. За смугою часу: (Даследаванні і меркаванні). — Мінск, 1994. С. 73; Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 53.*

*[12] Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме. — Мінск, 2006. С. 86.*

*[13] Тамсама. С. 78.*

*[14] Тамсама. С. 79.*

*[15] За смугою часу... С. 73; Дзеі над Шчарай... С. 53.*

*[16] Ёрш С. Як выглядала Шчара ў Слоніме да пабудовы канала // Слонімскі край, 2020, № 3(49). Люты. С. 3-4.*

*[17] Археолагі разам з дайверамі даследуюць каля 50 вадаёмаў Беларусі // 2015, 8 красавіка; https://nn.by/?c=ar&i=147412*

# Выпускнікі Слонімскага вышэйшага пачатковага вучылішча

*Працяг, пачатак на ст. 1*

У чэрвені 1912-га ў Расійскай імперыі (а Беларусь у той час уваходзіла ў яе склад) замест 3-х і 4-х класных гарадскіх вучылішчаў стварылі вышэйшыя пачатковыя вучылішчы: мужчынскія, жаночыя і змяшаныя. Адно з іх адкрылася ў нашым горадзе — мужчынскае. На навучанне прымаліся хлопчыкі ва ўзросце 10-13 гадоў — гарадскія дзеці, якія скончылі пачатковую школу.

Вышэйшае пачатковае вучылішча складаліся з 4-х класаў з гадавым курсам у кожным. Выкладалі Закон Божы, рускую мову і славеснасць, арыфметыку і пачатак алгебры, геаметрыю, геаграфію, гісторыю Расіі з агульнай гісторыяй, прыродазнаўства, фізіку, маляванне і чарчэнне, а таксама фізкультуру.




Навучэнцы, якія прайшлі курс першых і другіх класаў, мелі права паступаць у другі і трэці класы сярэдніх агульнаадукацыйных школ. Але для паступлення ў трэці клас патрабавалася здача экзамена па замежных і старажытных мовах, што з'яўлялася своеасаблівай перашкодай для працягу адукацыі. Выпускнікі вышэйшых пачатковых вучылішчаў звычайна паступалі ў настаўніцкія семінарыі ці тэхнічныя вучылішчы. Пры вышэйшых пачатковых вучылішчах меліся дадатковыя класы ці курсы: педагагічныя, сельскагаспадарчыя, рамесныя, бухгалтарскія, паштова-тэлеграфныя і іншыя з аднагадовым ці двухгадовым тэрмінам навучання.

Здымак, які публікуецца ўпершыню, з'яўляецца своеасаблівым гістарычным дакументам слонімскай педагогікі. У 1915 годзе вучылішча скончылі 32 хлопцы. Як склаўся іх лёс, чые гэта дзядулі і прадзядулі — магчыма нам разгадку падкажуць самі слонімцы. Але і цяпер на Слонімшчыне жыве шмат



людзей з такімі прозвішчамі, як у тых хлопцаў пачатку XX стагоддзя: Бялькевіч, Баль, Крот, Радзішэўскі, Шундрык, Пашкевіч, Міськевіч, Налівайка, Казакевіч, Шыла, Віцінявец, Васілоўскі, Макавельскі, Мінушчыц, Грабун, Русевіч, Махамет, Давыдзік, Кучура, Неварка, Ягоўдзік, Краўцэвіч, Шыманскі, Брушко, Прымакоў, Паўловіч, Цедроўскі, Герка, Карніеўскі, Гінзбург, Сідаровіч, Міхнікевіч.

Дырэктарам Слонімскага вышэйшага пачатковага вучылішча быў нехта В. А. Цімінскі. Яго прозвішча, як і прозвішчы выкладчыкаў, нам невядомыя. А вось імя праваслаўнага святара, які выкладаў Закон Божы, Яўгена Дружылоўскага, былога выпускніка Жыровіцкага духоўнага вучылішча, часта сустракаецца на старонках *“Гродненских епархиальных ведомостей”.*




Фотаздымак выпускнікоў Слонімскага вышэйшага пачатковага вучылішча быў зроблены ў фотамайстэрні Барыса Вайнштэйна.

●Сяргей Чыгрын

# Новыя аэрафота Слоніма і Альбярціна стогадовай даўніны



*На пярэднім плане бачым забудаванае Замчышча, зверху — гандлёвыя рады (цяпер — сквер па Першамайскай вуліцы), злева — былая ратуша*

Як і чакалася, на ebay.com з'явіліся новыя аэрафота Слоніма і Альбярціна, зробленыя немцамі падчас Першай сусветнай вайны. Ранейшыя з'яўляліся на працягу 2016-2018 гадоў і ў "СК" былі публікацыі пра іх.* Дзякуючы гэтым здымкам, мы пабачылі, як выглядалі некаторыя раёны горада (у тым ліку і цэнтр) сто гадоў таму.

Пяць здымкаў студзеня 2021-га ўзятыя з аднаго альбома (уладальнік знаходзіцца ў Германіі). Магчыма, з яго паходзіць і частка здымкаў, якія трапілі ў інтэрнэт раней.

На іх бачым забудову Замчышча (двухпавярховы будынак гімназіі і прыватныя дамы), цяперашняй Чырвонаармейскай вуліцы, наваколля Агінскага канала (часовыя масты праз яго), выдатна бачныя былыя гандлёвыя рады на цяперашняй Першамайскай і наваколле. Большасць будынкаў ужо не існуюць, а мы маем магчымасць здзейсніць віртуальную вандроўку.

Маем яшчэ адно фота вайсковых казармаў і жылых дамоў у тым раёне. Падобнае фота публікавалася тры гады таму. Тады ж з'явілася і аэрафота Альбярціна. Цяпер жа маем здымак, на якім буйным планам — прамысловыя прадпрыемствы (ці іх руіны), баракі для рабочых.

Яшчэ адно аэрафота Слоніма часоў Першай сусветнай вайны з'явілася на allegro.pl. На ім — казармы, жылыя дамы, бераг Шчары і пачатак Рышчыцаў.

●Сяргей Ёрш

**Ёрш С. Здымкі Слоніма, зробленыя з нямецкага самалёта 100 гадоў таму // Слонімскі край, 2017, № 1(11). Студзень. С. 10; Аэрафота Альбярціна і Дзеравянчыцаў стогадовай даўніны // Слонімскі край, 2018, № 3(25). Сакавік. С. 14-15; Новыя аэрафота Слоніма, зробленыя падчас Першай сусветнай вайны // Слонімскі край, 2018, № 7(29). Ліпень. С. 7.*



*Альбярцін*



*На фота бачым, як Шчара затапляла наваколле, у тым ліку жылыя дамы і агароды слонімцаў*



*Цэнтр Слоніма з вышыні птушынага палёту*



*Скрыжаванне цяперашніх Чырвонаармейскай, Шасейнай і Косаўскага тракту, вайсковыя казармы*

# Новае аблічча старога дома

Нядаўна ў сацсетках слонімцы абмяркоўвалі новае аблічча старога дома па Чырвонаармейскай, 51. Яго прадалі, і новыя гаспадары правялі “перабудову”. Думкі падзяліліся: адны шкадавалі, што такі адметны будынак страціў ранейшы выгляд, іншыя, наадварот, радаваліся, што занядбаны дом набудзе прыстойны выгляд. Здавалася б і сапраўды, чаго тут наракаць? Гэта ж не помнік архітэктуры. Але на гэтым участку вуліцы хіба толькі ён мог звярнуць на сябе ўвагу турыстаў. Непадалёку калісьці жыў паэт і краязнаўца Гальяш Леўчык, і гэты дом памятае яго няспешныя крокі…



2021

Цікава, што калі летам 2016-га ў “ГС” стартавала рубрыка “Гарадскія гісторыі”, то першым разглядаўся якраз “цікавы-каларытны” будынак па Чырвонаармейскай.* Вольга Шынкевіч высветліла, што ён быў пабудаваны нейкім Ёдзісам у 1939-м, напярэдадні Другой сусветнай вайны. Тады яго фасад выглядаў інакш — сляды перабудоў былі заўважныя. Верагодна, быў балкон, з якога, паводле недакладных звестак, у 1941-м прамаўляў нямецкі генерал. Нібыта, у тагачасным часопісе друкавалася фота — варта было б адшукаць.

*“Ці дажыве ён да свайго стагоддзя?”,* — пісала аўтарка артыкула пра стары дом. Будзем спадзявацца, што дажыве.

●Генадзь Гурскі

Фота: vk.com/mojslonim і аўтара

**Шинкевич О. Дом, который построил пан//Газета Слонімская, 2016, № 27, 29 чэрвеня. С. 4.*



2017

*Городские истории*

**ДОМ, КОТОРЫЙ ПОСТРОИЛ ПАН**

**С сегодняшнего номера в «Газете Слонимской» — новая рубрика под названием «Городские истории». В ней мы расскажем о наиболее интересных-колоритных постройках Слонима, которые мы видим довольно часто, но даже не догадываемся, кто в них жил, возможно, проживает до сих пор...**



*Дом на улице Красноармейской, 51 — 77 лет*

Кирпичный дом по улице Красноармейской, 51 отличается от всех остальных, которые находятся от него в непосредственной близости. Невооруженным глазом видно, что постройка с данной историей — такая кладка кирпича, с форточками украшенными, не [illegible]

этого дома.

Есть история, что раньше в доме был балкон, так вот, когда немцы во время Великой Отечественной войны были в Слониме, один из главнокомандующих именно с этой высоты приветствовал оккупантов.

«Говорили, что даже фото-

# Пра школу ў Міжэвічах, якую пабудавалі ў 1930-я гады

Сёлета ў “Слонімскім весніку” з’явіўся нарыс пра гісторыю Міжэвіцкай сярэдняй школы.[1] “Белай плямай” у ім з’яўляецца міжваенны час, калі Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад Польшчы. У той час пачатковая школа ў Міжэвічах дзейнічала. “СК” змяшчаў летам 2018-га аўтографы вучняў гэтай навучальнай установы 1926 года, якія захаваліся ў бібліятэцы Кангрэсу ЗША.[2]




Таксама ўдалося знайсці зацемку пра будаўніцтва мураванай школы ў вёсцы ў 1935 годзе.[3] З яе вынікае, што да таго часу школа месцілася ў сядзібе гміны. Каб пабудаваць мураваны будынак, давялося збіраць сродкі з розных крыніц. Напрыклад, гміна дала 4 тысячы злотых, камітэт падтрымкі будаўніцтва пачатковых школ — 3 тысячы злотых. Жыхары Міжэвічаў пагадзіліся на спецыяльны падатак — 1 злоты з аднаго гектара зямлі. Вяскоўцы працавалі і на будаўніцтве. У зацемцы адзначаецца, што “душой акцыі” быў войт гміны Язэп Апанасік (аўтограф войта ёсць на аркушы ад 1926-га). Можа на Слонімшчыне жывуць яго сваякі?

2-класная (у адной з публікацый памылкова згадвалася 4-класная) пачатковая школа ў Міжэвічах атрымала імя Юзафа Пілсудскага. Урачыстасць яе асвячэння прайшла ў сярэдзіне кастрычніка 1936 года.[4]

У нарысе ў “Слонімскім весніку” згадваецца, што *“драўляны будынак школы спалілі фашысты”*. Не зразумела, ці гэта памылка, ці школу да таго часу “перасялілі”.

●СЁ

— **Jak powstaje szkoła w Miżewiczach.** Dotychczas szkoła w Miżewiczach (siedziba gminy) mieściła się w budynku godnym pożałowania. To też z przyjemnością patrzy się na wznoszony w szybkiem tempie nowy murowany gmach szkolny, w którym mieścić się będzie 4 klasowa szkoła powszechna im. Marszałka Józefa Piłsudskiego. Rada Gminna uchwaliła na budynek 4000 zł., Komitet Popierania budowy szkół powszechnych udzielił pożyczki w kwocie 3000 zł. ponadto wieś Miżewicze opodatkowała się dobrowolnie w kwocie 1 zł. od 1 ha ziemi. Gromada również daje robociznę niefachową. W ten sposób własnemi, rzec można siłami wieś buduje szkołę. Szczęśliwym projektodawcą i duszą akcji budowy szkoły jest wójt gminy p. Józef Apanasik.

KRONIKA SŁONIMSKA

— **Uroczystość poświęcenia szkoły.** I powiat słonimski może w ogólnym rozmachu budownictwa szkół powszechnych, poszczycić się odniesionymi rezultatami. Między innymi, dnia 14 b. m. nastąpi poświęcenie i otwarcie 2 klasowej szkoły powszechnej im. Pierwszego Marszałka Polski Józefa Piłsudskiego w Miżewiczach. Należy podkreślić, iż budowa szkoły powszechnej w Miżewiczach jest wynikiem pomocy udzielonej przez fundusze specjalnie na ten cel przeznaczone, jak T-wa Budowy Publicznych Szkół Powszechnych i inne instytucje subsydjujące, ale te wytężonej pracy zarządu gminnego w Miżewiczach z p. wójtem Apanasikiem na czele.

*[1] Денисюк Т. Директор Мижевичской средней школы Аннета Аниськевич: “Расположение школы в сельской местности не является недостатком” // 2021, 18 студзеня; https://www.slonves.by/direktor-mizhevichskoj-srednej-shkoly-anneta-aniskevich-raspolozhenie-shkoly-v-selskoj-mestnosti-ne-yavlyaetsya-nedostatkom/*

*[2] У бібліятэцы Кангрэсу ЗША захаваліся аўтографы слонімскіх школьнікаў // Слонімскі край, 2018, № 7(29). Ліпень. С. 33.*

*[3] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 187, 11 ліпеня.*

*[4] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 282, 14 кастрычніка; Kurjer Nowogródzki, 1936, № 286, 18 кастрычніка.*

# Да гісторыі пабудовы слонімскай школы

У канцы 2020-га слонімская СШ № 5 адзначала юбілей — 70-годдзе.[1] Ён адлічваецца ад 1950 года, калі яна стала сярэдняй агульнаадукацыйнай школай.[2] Пры гэтым у нарысе гісторыі навучальнай установы згадваецца, што *"школа пачала сваю працу ў 1938 г. як сямікласная публічная ўсеагульная школа № 5 імя Ігнація Масціцкага і праіснавала ў такой якасці да 1941 г."*.[3] А ў кнізе "Памяць" чытаем наступнае: *"Школа была адкрыта ў 1934 г. як сямікласная публічная ўсеагульная школа імя Ігнація Масціцкага ў пабудаваным для яе памяшканні… У 1950 г. школа была адноўлена і ў верасні прыняла сваіх першых вучняў"*.[4]

Гэтыя супярэчнасці сталі магчымыя з-за нераспрацаванасці гісторыі навучальнай установы ў яе "дасавецкі перыяд". Паспрабуем яе рэканструяваць з дапамогай публікацый у тагачаснай перыёдыцы.

Чаму ў Слоніме спатрэбілася новая школа? Відаць, з-за здарэння, якое адбылося 9 студзеня 1929-га. Па вуліцы 3 Мая (цяперашняй Чырвонаармейскай) дашчэнту згарэла пачатковая дзяржаўная школа.[5] Новую школу вырашылі пабудаваць на "магістрацкім пляцы" праз дарогу ад былога кляштара бенедыктынак. Добра вядомы здымак з наведвання прэзідэнтам Польшчы Ігнацы Масціцкім будаўнічай пляцоўкі школы па вуліцы 3 Мая. Адбылося гэта на другі дзень яго візіту ў Слонім, 20 верасня 1929-га.[6]

Што ж было далей? Утварыўся даўгабуд. Школа ў гэтым будынку была ўрачыста адкрыта не ў 1934-м і не ў 1938-м, а ў 1936 годзе (сёлета ў верасні будзе 85





гадоў з той падзеі). Нам удалося адшукаць маленькую зацемку пра гэта. Школа мела 4-ы нумар. На ўрачыстасці прысутнічалі прадстаўнікі мясцовых уладаў, у тым ліку стараста Слонімскага павета Міраслаў Альшэўскі, школьны інспектар Здралевіч. Паведамлялася, што два паверхі будынка, як і сутарэнні (там знаходзіўся гардэроб), былі цалкам скончаны (хаця дробныя ўнутраныя працы яшчэ ішлі). Трэці паверх збіраліся здаць у эксплуатацыю ў 1937-м.[7] Побач планавалі пабудаваць будынак для заняткаў спортам.[8]

Сама 4-я школа існавала ў Слоніме з 1933 года (сёлета ёй будзе 88 гадоў), яе адкрылі *"у сувязі з натуральным прыростам насельніцтва"*. Яна была сямікласная. Дырэктарам прызначылі Мечыслава Гальскага.[9] Навучальная ўстанова некалькі гадоў займала будынак па Маставой вуліцы (цяпер — Янкі Купалы). Як успамінае слонімец Барыс Данілюк, Гальскі быў *"упадабаны ўсімі вучнямі"*.[10] Гэта сапраўды быў цікавы чалавек, варты асобнай публікацыі.

Пра даўгабуд на вуліцы 3 Мая шмат пісала мясцовая прэса ў 1930-я гады. Яшчэ ў верасні 1934-га гарадскія ўлады звярталіся ў ваяводства ў Навагрудак з просьбай аб крэдыце, у тым ліку і для пабудовы школы.[11] Працы актывізаваліся восенню 1935 года.[12] Планавалася, што ў новым будынку будуць адразу дзве школы — польская і яўрэйская.[13] Аднак на адкрыцці гаворка ішла толькі пра 4-ю школу.

Можна меркаваць, што захаваліся архіўныя матэрыялы, якія дапамогуць больш дакладна аднавіць пачатковы перыяд існавання навучальнай установы.

●СЁ

*[1] Юшкевич Е. Будущее начинается сегодня: пятая школа отмечает юбилей // 2020, 26 снежня; https://www.slonves.by/budushhee-nachinaetsya-segodnya-pyataya-shkola-otmechaet-yubilej/*

*[2] Немного истории // https://5slonim.znaj.by/ob-uchregdenii/nemnogo-istorii*

*[3] Тамсама.*

*[4] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна. — Мінск, 2004. С. 590*

*[5] Życie Nowogródzkie, 1929, № 12, 12 студзеня.*

*[6] СЁ. Прэзідэнт Польшчы ў Слоніме // Слонімскі край, 2020, № 7(53). Чэрвень. С. 11.*

*[7] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 249, 11 верасня.*

*[8] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 181, 4 ліпеня.*

*[9] Kurjer Nowogródzki, 1933, № 235, 29 жніўня.*

*[10] Данілюк Б. Азіраючыся расой выетымі вачыма: Успаміны. — Мінск, 2012. С. 105.*

*[11] Kurjer Nowogródzki, 1934, № 264, 27 верасня.*

*[12] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 266, 28 верасня.*

*[13] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 181, 4 ліпеня; Kurjer Nowogródzki, 1936, № 181, 4 ліпеня; Kurjer Nowogródzki, 1936, № 226, 18 жніўня.*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Вайскоўцы на палігоне, 1928 год

У пачатку 2021 года на сайце allegro.pl з’явілася фота вайскоўцаў 80-га пяхотнага палка, які ў міжваенны час дыслакаваўся ў Слоніме. Гэта сапраўдны шэдэўр ад фатографа Барыса Вайнштэйна. Раней даводзілася бачыць тагачасныя статычныя фота вайскоўцаў — групавыя і адзіночныя. А тут атрымаўся мастацкі здымак. Чаго толькі на ім няма! Вайскоўцы ў свой вольны час на палігоне ў 1928-м відавочна не сумавалі.

●Генадзь Гурскі














# Дзе гулялі ў хакей у 1930-я гады

Першы чэмпіянат Польшчы па хакеі з шайбай прайшоў у 1926 годзе. У Слонім гэта від спорту прыйшоў у 1930-я, але вялікай папулярнасці не меў. З аднаго боку, яго слаба прапагандавалі. З іншага — для гульні патрэбны былі клюшкі, канькі, нарэшце, пляцоўка. З каткамі доўгі час была праблема. У канцы 1920-х "слізгаўку" арганізоўвалі на Шчары (ці каля яе) паміж чыгуначным мостам і мостам па цяперашняй вуліцы Янкі Купалы. Месца было нязручнае, далёкае ад цэнтра, і не карысталася папулярнасцю (але яго там рабілі яшчэ ў 1932 годзе). У снежні 1928 года каток каля прыстані на канале Агінскага арганізаваў слонімскі аддзел "Лігі марской і рачной". Але за карыстанне трэба было заплаціць 50 грошаў.[1] У лістападзе 1931-га на сваёй тэрыторыі каток залілі пажарныя.[2]

"Слізгаўкі" выкрыстоўвалі для катання на каньках, пра хакей спачатку ўвогуле не было гаворкі. Але іх якасць не заўсёды была добрая. 18 студзеня 1932 года вядомая слонімская спартсменка Г. Мілка каталася на каньках на катку каля настаўніцкай семінарыі, зачапілася за ўмерзлы ў лёд кавалак дрэва і ўпала. У яе былі моцна пашкоджаныя рукі і левая нага.[3] А яшчэ заняткам зімовымі відамі спорту перашкаджала анамальнае надвор'е. Праз некалькі дзён пасля здарэння з Мілкай у Слоніме ўжо была плюсавая тэмпература, на Шчары таяў лёд.[4] У канцы 1933-га ў прэсе ўздымалася тэма "занядбання" катання на каньках у Слоніме, як віду спорту — ніводная мясцовая грамадская арганізацыя ім не займалася.[5]





*У Слоніме на пляцоўцы паміж стараствам і дамбай у 1930-я гулялі ў хакей*

**KRONIKA SŁONIMSKA**

— **Hokej.** Na lodowisku Szczary odbyły się zawody hokejowe między drużynami K. P. W. a Gimnazjum Państwowem. Mimo przewagi fizycznej K. P. W. przegrało mecz w stosunku 6:4 na korzyść Gimnazjum.

*Паведамленне пра хакейны матч на лёдзе Шчары*

Але вернемся да хакея. Першы хакейны матч, пра які нам вядома, адбыўся ў лютым 1935 года. На лёдзе Шчары сустракаліся каманды K.P.W. і Gimnazjum Państwowe — чыгуначнікі і гімназісты. Першыя былі мацнейшыя фізічна, але ў навучэнцаў, відаць, была больш згуляная каманда, якая перамагла з лікам 6:4.[6]

Зімой 1936-1937 гадоў каток залівалі ўжо паміж стараствам (яно займала будынак былога кляштара бернардзінцаў) і дамбай.[7] Быў нават "інвестыцыйны план" па вырабе штучнага лёду, які там жа каля стараства збіраліся ўкладваць для катку, і там мусілі прайсці *"першыя ў Слоніме хакейныя*



*спаборніцтвы”*.[8]

У лютым 1937-га каток паміж стараствам і дамбай падзялілі на дзве часткі: пакінулі месца для катання на каньках, а рэшту агарадзілі для гульні ў хакей. У хакей гуляла моладзь. *“Брамкі, хоць прымітыўныя, але лепш за паліто і шапкі* [на лёдзе], *якія раней брамкі замянялі”*.[9] Хакейную лядовую пляцоўку абяцалі там жа арганізаваць і наступнай зімой.[10]

Ці былі ўсё ж арганізаваныя ў 1930-я хакейныя спаборніцтвы ў Слоніме, пакуль высветліць не ўдалося.

●Сяргей Ёрш

*[1] Życie Nowogródzkie, 1928, № 320, 28 снежня.*

*[2] Kurjer Nowogródzki, 1931, № 62, 28 лістапада.*

*[3] Kurjer Nowogródzki, 1932, № 16, 21 студзеня.*

*[4] Kurjer Nowogródzki, 1932, № 17, 22 студзеня.*

*[5] Kurjer Nowogródzki, 1933, № 341, 15 снежня.*

*[6] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 44, 14 лютага.*

*[7] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 342, 13 снежня; 1937, № 25, 26 студзеня.*

*[8] Kurjer Nowogródzki, 1937, № 43, 13 лютага.*

*[9] Kurjer Nowogródzki, 1937, № 44, 14 лютага.*

*[10] Kurjer Nowogródzki, 1937, № 61, 3 сакавіка.*

# Трагічнае здарэнне ў 79-м пяхотным палку

Летам 1935 года палкоўнік Людвік Бацянскі, які камандаваў пяхотай 20-й дывізіі польскага войска, прыехаў з Баранавічаў у Слонім і назіраў за баявымі вучэннямі 79-га палка. Пасадай сваёй ён быў незадаволены, у штабе пакутаваў ад нуды і немагчымасці рэалізаваць свае грандыёзныя планы. Званне палкоўніка ён атрымаў у далёкім 1929-м. Падчас такіх “камандзіровак” адчуваў “творчы пад’ём”, з энтузіязмам браўся за справу.

Падчас вучэнняў Бацянскі звярнуў увагу на няўдалае камандаванне аддзяленнем маладога падхарунжага Максімільяна Келбасы. На разборы пасля іх заканчэння палкоўнік выступіў з рэзкай крытыкай Келбасы, заявіў, што



*Палкоўнік Людвік Бацянскі*

*“будзе сачыць, каб ён ніколі не атрымаў афіцэрскага звання”*. У перапынку падхарунжы, які вельмі перажываў пачутае, незаўважна выйшаў у кусты, дзе стрэліў сабе ў рот. Так скончылася жыццё вайскоўца, які паходзіў з беднай сям’і рабочага з Сілезіі. Яго пахавалі на слонімскіх могілках.*

Што да Бацянскага, то ён у канцы 1935 года стаў віленскім ваяводам, спрабаваў вырашыць “беларускае пытанне”. Жыццё скончыў у 1970-м у Лондане.

Яшчэ адно самазабойства адбылося ў канцы 1934 года ў сям’і старэйшага сяржанта 79-га палка Францішка Буслоўскага *“на тэрыторыі вайсковых казармаў у будынку № 43”*. Яго 20-гадовая падчарка Казімера Крыска пасварылася з маці з-за 4 злотых, была ў нервовым стане і стрэліла з пісталета сабе ў скронь.**

●СЁ

**Wojtala T. Bociun. Płk.dypl. Ludwik Bociański (1892-1970). — Pleszew, 2012. С. 182.*

***Kurjer Nowogródzki, 1934, № 331, 3 снежня.*

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года



*Маёнтак Літва,1929 год, Сям'я Мікульскіх развітваецца пасля вяселля з Марыяй і яе мужам Юзэфам Стэцкім, якія ад'яджаюць на Валынь. Гэта адзіны фотаздымак бацькоў у сямейным альбоме Яна Х'юберта Стэцкага*

*Заканчэнне, пачатак у № 6-13, 2020 г., № 1, 2021 г.*

VIII.1939 ГОД: ТРАГЕДЫЯ РОДУ

Марыя Мікульская

Я працягваю шматгадовую перапіску з праўнукам Філарэнція (Фларэнціна) Мікульскага прафесарам-фізіяхімікам Акадэміі навук Польшчы Янам Х'юбертам Стэцкім. Звесткі, якімі ён падзяліўся, далі магчымасць даведацца больш пра гісторыю яго сям'і. У адным з першых лістоў да мяне Ян Х'юберт Стэцкі пісаў:

*"Мая маці Марыя Стэцка была адной з трох дачок Аляксандра Мікульскага з Літвы. У яе былі дзве сястры — Магдалена і Аляксандра. Мае бацькі Юзэф Стэцкі і Марыя Мікульская пажаніліся ў Літве ў красавіку 1929 года. Другая сястра Магдалена выйшла замуж, а Аляксандра гаспадарыла адна ў Літве. Я маленькім хлопчыкам ездзіў у Літву кожны год у траўні месяцы, таму што 3 траўня цётка Аляксандра адзначала імяніны. Я гасцяваў у цёткі заўсёды месяц ці шэсць тыдняў. Я памятаю, як мая маці з цёткай Аляксандрай наведвалі Пуслоўскіх у Альбярціне. Я памятаю ў Літве магілы свайго дзеда Аляксандра Мікульскага і яго жонкі: на ўскрайку лесу на невялікай палянцы быў земляны курган і стаяў вялікі крыж. Маленькім хлопчыкам я вельмі баяўся гэтага сумнага месца і, магчыма, таму я памятаю гэтыя могілкі вельмі выразна. Калі б я сёння накіраваўся ў Слонім, то першай справай я хацеў бы наведаць могілкі свайго дзеда Аляксандра Мікульскага і маёй цёткі Аляксандры..."*

На фотаздымку, дасланым мне Янам Хьюбертам Стэцкім, адлюстравана радасная падзея ў сям'і яго бацькоў у 1929 годзе: сваякі Мікульскія ў Літве развітваюцца пасля вяселля з Марыяй і яе мужам Юзэфам Стэцкім, якія ад'яджаюць на

Валынь у Мяжырыцкі палац (цяпер гэта Вялікія Мяжырычы Карэцкага раёна Ровенскай вобласці Украіны).

Заможны жаніх Юзэф Стэцкі прыехаў у Літву на аўтамабілі фірмы Buicks. Аўтамабілі гэтай маркі былі прэміум-класа, элітныя, раскошныя лімузіны, створаныя шатландска-амерыканскім прадпрымальнікам Дэвідам Данбарам Буікам, імі ў міжваенны час карысталіся найбольш вядомыя прадстаўнікі свету шоу-бізнэсу.

Юзэф Стэцкі і Марыя Мікульская былі гаспадарамі ў Мяжырычах да восені 1939 года. 1 кастрычніка 1930-га ў іх сям'і нарадзіўся сын Ян, а 5 снежня 1937 года — Аляксандр. Яну Стэцкаму было 9 гадоў, калі пачалася Другая сусветная вайна. Ён добра памятае пастаянныя нямецкія бамбардзіроўкі і страляніну з самалётаў па калонах бежанцаў з цэнтральнай Польшчы, якія накіроўваліся на ўсход. Хваля бежанцаў дабралася і да Мяжырычаў. Юзэф Стэцкі і Марыя Мікульская забяспечвалі іх прытулкам і ежаю, размяшчалі ў сваім вялікім палацы.

Але 17 верасня Чырвоная Армія перайшла мяжу. Савецкая ўлада адразу канфіскавала палац. Графа Юзэфа Стэцкага арыштавалі і даставілі ў турму ў Роўна. Падчас разрабавання палаца была назаўсёды страчана скрыпка Міхала Клеафаса Агінскага, на якой ён стварыў свой знакаміты паланэз “Развітанне з Радзімай”. Марыя Мікульская паспела перадаць скрыпку на захаванне мясцоваму жыхару, які працаваў у маёнтку, але мясцовыя сяляне падпалілі яго хату разам з ім і яго сям'ёй. Атрымліваецца, што апошняй, хто трымаў у руках знакамітую скрыпку Міхала Клеафаса Агінскага, была ураджэнка Слонімшчыны Марыя Мікульская. Яна атрымала ад новай улады дазвол з'ехаць з дзецьмі, але не падпарадкавалася, паехала ў Роўна вызваляць з турмы свайго мужа, дзе была арыштавана і накіравана на пасяленне ў Казахстан. Адтуль Мікульскую перавялі ў Сібір у паселішча пад Омскам. Яна прыехала ў Польшчу ў 1946 годзе, была хворая і памерла ў студзені 1949-га ва Уроцлаве. Высветлілася, што яе муж быў забіты пад Кіевам у 1940 годзе. Сыны ж жылі ў Кракаве ў сваякоў Скарбекаў. Пасля вайны яны атрымалі званні прафесараў: Ян Х'юберт Стэцкі стаў прафесарам-хімікам у Інстытуце хіміі Польскай акадэміі навук у Варшаве, а Аляксандр Стэцкі — прафесарам універсітэта навукі і тэхнікі ў Кракаве.





*Палац Вялікія Мяжырычы графаў Стэцкіх на малюнку Напалеона Орды и яго сучасны выгляд*

## Аляксандра Мікульская

Да верасня 1939 года маёнтак Літва належыў роднай цётцы Яна Х'юберта Стэцкага

*Працяг на ст. 16*

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года



*Апошняя гаспадыня Літвы Аляксандра Мікульская. З сямейнага архіву Яна Х'юберта Стэцкага*

*Працяг, пачатак на ст. 14-15*

Аляксандры Мікульскай. Бацькі яе памерлі, а пані Аляксандра так і не выйшла замуж, жыла адна ў 40-пакаёвым палацы. У 1939-м яна з фурманам ездзіла ў Варшаву, дзе купіла аўтамабіль Fiat. На той час ёй было каля 60 гадоў. Мікульская лічыла, што жыццё працягваецца, і наперадзе чакаюць яе добрыя змены. Праз некаторы час змены сапраўды адбыліся, але ў адносінах да яе яны насілі фатальны характар.

Восенню 1939 года на Слонімшчыне ўстанавілася савецкая ўлада, і для гаспадыні Літвы насталі "чорныя" дні, дні безуладдзя, усёдазволенасці, калі жыццё чалавека ўжо нічога не каштавала. Поўным ходам ішла нацыяналізацыя і канфіскацыя дзяржаўнай маёмасці, фабрык, заводаў, памешчыцкіх зямель. За некалькі дзён безуладдзя мясцовыя актывісты адчулі ўсёдазволенасць і ўладу, пачаліся нябачаныя злачынствы. Пакутніцкай смерцю загінулі ў Шылавічах праваслаўны святар Андрэй Куц і яго жонка Алена. Падобны лёс напаткаў і апошнюю ўладальніцу маёнтка Літва Аляксандру Мікульскую.

З успамінаў Мікалая Іванавіча Філёнчыка, Вольгі Філіпаўны Валюкевіч, Уладзіміра Паўлавіча Бадзея і іншых жыхароў вёскі Літва:

*"На пані Мікульскую пачалі скардзіцца жыхары суседняй вёскі. Яе арыштавалі і адвезлі ў Жыровічы, дзе трымалі тыдзень, а потым зноў даставілі на допыт у Літву. Кажуць, што Мікульскую не кармілі некалькі дзён, і яна была вельмі галодная. Некаторыя вяскоўцы здзекаваліся з яе, абсыпалі хлеб пяском і кідалі пані, як сабачцы, а яна казала ім: "Дзякуй!". А яна ж ведала шмат замежных моваў, была вельмі адукаваная, казала, што будзе вучыць вясковых дзяцей і толькі прасіла, каб яе не забівалі".*

*"Пані была вельмі адукаваная жанчына, ведала 5 альбо 6 замежных моў. І тварам і душою была прыгожая. Але з-за сваёй кульгавасці яна так і не выйшла замуж. Яна прасілася, каб яе не забівалі. Казала, што будзе вучыць іх дзяцей у школе, але яе ніхто не паслухаў".*

*“Няшчасную пані Мікульскую ўсё-такі забілі. Калі ехаць з Літвы на Жыровічы па асфальце, па левы бок бачны лясочак. Вось там, каля вёскі Заверша, недалёка ад дарогі яе і забілі”.*

*“Камітэтчыкі, уварваўшыся ў маёнтак Літва, пачалі рабаваць яго, пачалі катаваць і біць пані Мікульскую, каб тая аддала золата. Не пабаяўшыся божай кары, яны ўварваліся ў склеп Мікульскіх у пошуках золата. Мармуровыя труны былі разбіты, прах продкаў разварушаны. Гэтых здзекаў падалося мала, і тады яны згвалтавалі ды забілі яе ў жыровіцкім лесе. Яе аголенае цела некаторы час ляжала ля дарогі, але знайшоўся нехта, хто пахаваў яе. Людзі казалі, што на цела было страшна глядзець. Страшна ўявіць яе апошнія хвіліны жыцця, бо забойцамі былі сапраўдныя звар’яцелыя маньякі”.*

Больш пашанцавала ў 1939 годзе старэйшай сястры Аляксандры Магдалене Мікульскай: сям’я паспела эміграваць у Англію напярэдадні Другой сусветнай вайны.





*Магдалена Мікульская і яе муж Ежы Цэхомскі. З сямейнага архіву Яна Х’юберта Стэцкага*

Магдалена выйшла замуж за адваката Ежы Цэхомскага. Сёння нашчадкі роду Мікульскіх жывуць у Англіі, Аргенціне, Іспаніі.

Далейшы пошук звестак пра род Мікульскіх прывёў мяне ў Францыю да Марыі Клер і Х’юберта Дэнармандзі, французскіх нашчадкаў беларускага мастака і кампазітара Напалеона Орды. Мікульскія і Орды былі звязаны сваяцтвам праз шлюбы сваіх дзяцей: Марыя Орда выйшла замуж за Валенсія Мікульскага і да 1939 года яе дзеці жылі ў Старых Жыровічах. Так, 39-гадовая Ванда Мікульская (па мужу Летоўская) і яе два сыны Вітольд і Эдмунд у 1939 годзе былі арыштаваны і дэпартаваны са Слоніма 12 кастрычніка 1940 года для працы ў Казахстан ў камуну пад назвай Казанка. У 1942-м ім удалося выехаць у Іран, а адтуль — у Англію.

●Святлана Брайчук

# Краязнаўчы двухтомнік

У Мінску ў двух тамах выйшаў зборнік матэрыялаў Першага Рэспубліканскага краязнаўчага форума Беларусі, які прайшоў у сакавіку 2020 года. Наклад маленькі, але электронны варыянт даступны ў інтэрнэце для бясплатнага спампоўвання (спасылкі можна знайсці на старонцы Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі ў Facebook).

*“Краязнавец — гэта той, хто працуе ў імя Беларусі, для Беларусі і за Беларусь!* — піша ў прадмове Павел Сапоцька, ужо былы дырэктар згаданага музея. *— У імя таго кутка зямлі, які сапраўды дарагі і любы, якому прысвячаюць творы, кнігі, артыкулы, даследаванні!”.*



*Фота: facebook.com /histmuseum.by*

ХРОНІКА

# Мітрапаліт Філарэт



15 студзеня ў Жыровіцкім манастыры каля Крыжаўзвіжанскай царквы пахавалі мітрапаліта Філарэта (Вахрамеева), ганаровага патрыяршага экзарха Беларусі, кіраўніка БПЦ у 1978-2013 гадах. Ён памёр 12 студзеня ў Мінску на 86-м годзе жыцця. Пахаванне на Слонімшчыне было жаданнем мітрапаліта Філарэта. Фота: eparhia.by

# Уладальніца сінагогі не ведала пра яе аварыйны стан

Дзіцячая пісьменніца з Мінска Іанна Рыўз (Ілона Караваева), якая купіла слонімскую сінагогу, не ведала пра яе аварыйны стан. Пра гэта яна распавяла Радыё Свабода. Рашэнне набыць помнік архітэктуры сярэдзіны XVII ст. з Дзяржаўнага спісу гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі было *“спантанным і выпадковым”*.

Realt.by Іанна Рыўз сказала, што, каб купіць сінагогу, прадала кватэру. Але для стварэння праектнай дакументацыі, рэканструкцыі патрэбны вялізныя грошы. Каб іх сабраць, пісьменніца вырашыла стварыць уласны фонд. А трэба ж укласціся ў вызначаныя тэрміны… Новай уладальніцы сінагогі неабходна вырашыць нямала праблемаў, але яна аптымізму не губляе, расказвае пра планы (класічныя канцэрты каля сінагогі, арганізацыя ў прыбудовах кавярні, крамы сувеніраў для турыстаў).



*Ілона Караваева, яна ж Іаана Рыўз / slonves.by*

*“Пасля Другой сусветнай вайны мая сям’я жыла ў Слоніме,* — кажа Іанна Рыўз. — *Я служу мастацтву, і мне хацелася б унесці свой уклад у захаванне гэтага помніка”.*

Час пакажа, што атрымаецца ў пісьменніцы. Мы ж пажадаем ёй удачы і цярпення.

●ГГ

# Гербу Слоніма 430 гадоў

4 студзеня 1591 года вялікі князь літоўскі, кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт ІІІ пацвердзіў Слоніму Магдэбургскае права. Адначасова наш горад атрымаў свой першы герб: залаты леў з падвойным сярэбраным крыжам на блакітным полі. Усё гэта адбылося дзякуючы слонімскаму старасце, дзяржаўнаму і вайсковаму дзеячу, канцлеру ВКЛ Льву Сапегу. 430 гадоў таму.

Падчас панавання рускіх уладаў Слонім страціў свой герб. Для горада прыдумвалі іншыя варыянты, якія не прыжыліся. “Залаты леў” вярнуўся ў міжваенны час (у 1920-1930-я). Наступнае вяртанне адбылося ў незалежнай Беларусі. Спадзяемся, што назаўжды.

●Генадзь Гурскі

# Рэвалюцыйны год

## *Слонімшчына на старонках газеты “Гродненскія губернскія вѣдомости” ў 1905-м*

*Працяг, пачатак у № 10-12(56-58) за 2020 г., № 1(60) за 2021 г.*



Пра ламавое возніцтва*

19. Да занятку ламавым возніцкім заняткам дапускаюцца асобы мужчынскага полу, у адпаведнасці ніжэйпададзеным правілам, а жаночага [полу] толькі да ўтрымання ўстаноў для такога возніцтва.

20. Да язды па горадзе ў якасці ламавых вазніцаў дапускаюцца асобы ва ўзросце ад 18 да 70 гадоў.

21. Жадаючы займацца ламавым возніцкім заняткам павінен атрымаць у парадку, устаноўленым параграфамі 4 і 5 гэтых правілаў, адпаведнае пасведчанне, па прадастаўленні якога ў гарадское ўпраўленне атрымлівае за ўстаноўленую аплату два металічныя знакі з аднолькавымі нумарамі на кожны воз. З гэтых знакаў адзін вялікі прыбіваецца на дузе, пры англійскай запрэжцы наверсе хамута, а іншы, меншы, павінен пастаянна быць у вазніцы. Дуга ламавога вазніцы павінна быць афарбавана ў цёмнакарычневы колер і на пярэднім і заднім баках дугі пасярэдзіне ў яе даўжыню [мусіць] мець надпіс “Ламавы вазніца” і нумар металічнага знаку; калі ж ламавы [вазніца] ад якога-небудзь завода, то [пазначаецца] назва завода і нумар знаку.

22. Пры выкананні ламавога возніцтва, возвікі абавязаны выконваць наступныя правілы: а) мець трывалыя і моцныя вазы, а таксама прасторныя сані, у якіх палазы павінны быць абавязкова з падрэзамі, б) не выкарыстоўваць у возніцтве коней хворых і слабых, в) не нагружваць вазы залішнім цяжарам, які не адпавядае сілам жывёлы і не абыходзіцца з імі жорстка, г) падначальвацца ў гэтых адносінах патрабаванням паліцэйскага начальства, заснаваным на папярэднім пагадненні з гарадскім упраўленнем, д) мець коней падчас возніцтва закілзанымі і не даручаць некалькі вазоў аднаму вазніцу, а пры кожным мець абавязкова асаблівага вазніцу, які падчас язды абавязаны не адыходзіць ад коней, рухацца крокам, зусім не дапускаць язды рыссю, трымацца правага боку ў адзін шэраг, не пераганяючы адзін аднаго, не ездзіць у некалькі шэрагаў па адной і той жа вуліцы, е) не прывязваючы коней аднаго возу да другога і не злучаць іх у бесперапынны ланцуг, а трымаць паміж імі неабходныя інтэрвалы для свабоднага праезду і пропуску мінакоў, ж) бярвёны, дошкі і лісты жалеза ўкладваць на вазы такім чынам, каб іх канцы не цягнуліся па зямлі, з) кіраваць канём, не адыходзячы ад вазоў, і) не спыняцца з грузам каля корчмаў і ўвогуле не пакідаць на вуліцы коней без даручэння іх пад чыйсьці нагляд.

23. Ламавыя вазніцы абавязаны ў чаканні наймальнікаў стаяць на тых месцах, якія будуць вызначаны гарадскім кіраваннем, па пагадненні з мясцовай паліцэйскай уладай, і ў выпадку пажару абавязаны неадкладна з’явіцца са сваім канём, збруяй і вупражжу ў пажарнае дэпо ці на месца пажару, гледзячы, дзе ў гэты час будзе знаходзіцца пажарны абоз, запрэгчы каня ў аглоблі пажарнай бочкі і дастаўляць ваду на пажар да яго заканчэння, за плату ад гарадскога грамадскага кіравання па 20 кап[еек] за ўсялякую дастаўленую ім на пажар бочку вады.

24. Усялякі вазніца, як легкавы [рамізнік], так і ламавы, абавязаны пастаянна мець пры сабе правілы аб возніцкім занятку і прадастаўляць іх на першае патрабаванне не толькі службоўцаў паліцыі і гарадскога кіравання, але ўсялякага пасажыра і наймальніка. Правілы гэтыя выдаюцца вазніцам з гарадскога кіравання з платай за іх у адпаведнасці з коштам іх друку.

[…]

*Гродненскія губернскія вѣдомости*, 1905, № 35, 6 траўня.

*Грузавое возніцтва, перавозка цяжкіх грузаў.*

# Кніга пра Слонім 1934 года — у вольным доступе

На сайце polona.pl кожны жадаючы з нядаўняга часу можа "пагартаць" польскамоўную кнігу слонімскага краязнаўцы Годэля Гольдберга* "Нарыс гісторыі горада Слоніма" ("Zarys dziejów miasta Słonima". — Słonim, 1934).** Яна ілюстраваная, мае план горада, выкананы нейкім Радзішэўскім. Ён добрай якасці, па ім можна вывучыць усе тагачасныя вуліцы, завулкі і іх назвы. Кніга цікавая, напісаная аўтарам з любоўю да свайго горада.

●Генадзь Гурскі

*Пра яго гл. наступную публікацыю: СЁ. Слонімскія краязнаўцы: Памяці Годэля Гольдберга // Слонімскі край, 2016, № 1. Люты. С. 5.*

***https://polona.pl/item/zarys-dziejow-miasta-slonima-z-il-i-planem-miasta,OTY0Njc0ODc/4/#info:metadata*





*Годэль Гольдберг*

Усе нумары краязнаўчага месячніка "Слонімскі край" за 2016-2021 гады можна знайсці на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі "Камунікат": http://kamunikat.org/slonimski_kraj

"Слонімскі край" — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар Сяргей Ёрш

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.